чывідцаў пра хворых французаў у бальніцах. Ім трудна-б было даць веры, каб ня сьведчылі пра гэта такія паважаныя людзі, як проф. Міхал Гамаліцкі.

Яшчэ у 1804 г. быў пабудован у Вільне патолёгічны габінэт у памяшканні клінікі. Там было многа прэпаратаў розных частак чалавечага цела у шкляных пасудах, напоўненых спірытусам. Памяшканне клінікі занято было на шпіталь. Французскія дактары рупіліся аб захаванні патолёгічнага габінэту у цэласьці, але, калі пачалося адступленне французскай арміі, хворыя і галодныя салдаты захапілі памяшканне габінэта. Цяпер ня было каму турбавацца аб габінэту. Хворыя засталіся без жадвага дагляду. Галодныя, засмаглыя хворыя салдаты, ня маючы сілы пакінуць памешканне, накінуліся на пасуды, пазьядалі прэпараты і выпілі увесь сьпірытус. Лёгка дагадацца, што з імі потым было. Апьянеўшы ад сьпірытусу, яны у страшэнных муках, з дзікім рэвам канчалі сваё жыцьцё, або падпаўзаючы да трупаў сваіх таварышаў, грызьлі іх мёртвае цело...

Палітычныя буры, войны і напады чужынцаў вынішчылі усе да аднаго помнікі прамінулаго у слаўнай сталіцы Беларуска-Літоўскага Гаспадарства, засталося толькі дзьве-тры цэркві і колькі касьцёлаў, захованых да нашаго часу, і тыя шмат дзе перароблены і перабудованы. К ліку даўнейшых храмаў адносіцца сабор Прачыстае Багародзіцы, пабудованы другою малжонкаю Альгерда, Юляю Александраўнай, Цьверскою княжнай. Цэркаў гэтая набірае асаблівага гістарычнаго значэння з 1416 года, калі вял. кн. Вітаўт прызначыў яе катэдральным саборам для мітрапалітаў аўтокефальнае цэркві Літвы-Беларусі. Першы Беларускі мітрапаліт, Грыгоры Цымвлак пабудаваў тут сваю катэдру. У 1609 г. сабор быў забраны уніятамі. З руінаў і запусьцення храм гэты быў адноўлены у 1868 г..

Старасьвецкаю цэркаўю лічыцца гэтак сама Пятніцкая цэркаў, пабудованая першаю малжонкаю вял. кн. Альгерда, Марысяю Яраслаўнаю, княжною Вітэбскаю. Яна адноўлена у 1865 г. Катэдральны рымска-каталіцкі сабор у імя сьв. Станіслава, пабудованы быў, як мы ужо ведаем, Ягайлам у 1387 г. Ен колькі разоў нішчыўся пажарам і адбудованы у цяперашнім выглядзе па пляну проф. Гуцэвіча у 1801 г. У асобнай мураванай капліцы, пабудованай Зыгмундам III і скончанай Уладыславам IV у 1636 г., у срэбнай труне, сапачываюць мошчы сьв. Казімера. Тут-жа у склепе спачываюць косьці караля польскаго і вялікаго князя беларуска-літоўскаго Александра і двух малжонак Зыгмунта-Аўгуста.

Асабліва зьвяртае на сябе увагу касьцёл сьв. Ганны, пабудованы, як даводзіць гісторык Нарбут, у 1396 г. другою малжонкаю вял. кн. Вітаўта, Ганнаю Сьвятаслаўнаю, княжною Смаленскаю. Ен уяўляе самы чысты готыцкі стыль і да гэтаго часу захаваўся вельмі добра, прадстаўляючы сабою ядыны помнік у гэтым кштальце.

У Вільне былі пахованы гэтакія асобы з каралеўскаго роду: князь Швінтарог, вял. кн. Гедымін і Кейстут; у 1346 г. у Пятніцкай цэркві першая малжонка Альгерда Марыя Яраслаўна, княжна Вітэбская; вялікі князь Альгерд у Прачысьценскай цэркві у 1377 г.; князь Карыгайла Альгердавіч, забіты у 1390 г. і Александр Вігунд, брат Ягайлы, памёршы хутка посьля Карыгайлы; Ганна Сьвятаслаўна, княжна Смаленская, другая малжонка Вітаўта, у 1418 г. і сам вял. кн. Вітаўт у 1430 г. у рымска-каталіцкім катэдральным саборы сьв. Станіслава, у асобным аўтары, каторы зваўся Вітаўтавым; у 1440 г. тут пахован князь Зыгмунд Кейстутавіч, вял. кн. Сьвідрыгайла Альгердавіч у 1452 г.; Казімер Казімеравіч сьвяты, сын караля польскаго і вял. кн. бел.-літ., Гэлена Іоанаўна, дачка князя маскоўскаго Іоана III, малжонка караля Александра, пахована у 1513 г. у Прачысьценскім саборы. Над гробам яе пастаўлена была ікона Божае Мацеры, каторую Іоан блогаславіў сваю дачку, выпраўляючы яе да Вільні...

Ваколіцы Вільні вельмі прыгожыя і багаты пекнымі размаітымі натуральнымі малюнкамі. Многа тут розных гістарычных мейсц і помнікаў. Тут што ня крок—усюды можна знайці сьлед гістарычных здарэнняў. Узгорак, груд, руіны, слуп ці крыж пры дарозе, капліца або навят карчма ці стадола,—усё гэта цікавыя помнікі старасьветчыны, сівыя сьведкі даўнейшае гістарычнае долі нашаго беларускаго народа.

**Я. Л-к.**



# С паперау К. Каганца.

## Вандроўка кроплі вады.

Яснае соўнейко клікало вадзяную кроплю, дачку мора:

— Хадзема са мною, павандруем па Божаму сьвету да пагуляема у празрыстым блакітным небе.

Кропля-б з дарагой душы, да бацька-моро ня пускае. Вота-ж і пасылае соўнейко да яе гарачы промень: узяў ён кроплю, зрабіў яе нявідзімкаю ды панёс усё вышэй і вышэй, усё бліжэй і бліжэй да сонца. А сонцо гуляе сабе па высокай вышыне, угары, па-над гарамі да марамі. Доўга лятала кропелька, прытамілася, выбілася з сілы і ня можа далей ляцець. Ды не адна яна, а багата такіх валацугаў, яе сёстраў, паўцякало з мора. Сабраліся яны да кучы у шэрую хмару, сядзяць дый плачуць, што ня маюць сілы іці далей да яснаго соўнейка. Зьмілавалося над імі соўнейко і паслало свайго сына, сьвежаго ветра. Пазьбіраў ён іх у купу ды пагнаў па небе дадому. Як зышліся кропелькі да купы, распыталіся і прывіталіся с сабою і перасталі нявідзімкамі быць, а зноў у кропелькі перакінуліся. Абняліся яны ды разам і пападалі на землю дажджом.

Наша кропелька пала з дажджом на высокай гары, а з ёю ня мала і другіх кропель. А гара гэта была далёка ад мора. Ну, што-ж? Нечага ім вылягацiя, трэба і дамоў пасыпяшаці! Весело кропелькі пабеглі да паскакалі з скалы па скалу, з каменя на камень, усё ніжэй ды ніжэй. Дабеглі да струмачка і шыбка ды шумна паплылі уперад. Калі бачаць—хіхо: людзі загацілі воду, і кропелькам трэба іці на млыновыя колы. Зашумелі яны, загулі, рынаю рынуліся на колы, акруціліся іх і апынуліся на другім боку грэблі. Плывуць яны сабе ды плывуць спакойна да ціха ужо ў шырокай рэчцы і мяркуюць:

— Вось, вось недалёчка дадому!

Калі дзе ня ўзяліся чоўны,—душаць яны нашы кроплі, душаць іх і важкія віціны, рэжуць іх і прыткія параходы. Ды ці мала выпало на іх долю ліха, покі не дабеглі і не абняліся з бацькам-морам.

---

## Скрыпач і ваўкі.

Быў у нас на сяле скрыпач Ахрэм. Ен быў так сабе, просты гаспадар. Яшчэ змалку навучыўся ён на скрыпцы граць, і такі ня быля як іграў. А людзям таго і трэба. Вось прышла восень, пачаліся веселлі,—вота-ж і клічуць Ахрэма то туды, то сюды іграць на веселлях. І людзям весялей і чалавеку заработак.

Вота-ж аднаго разу паклікалі яго у другую слабаду іграці,—так вёрст за сем ад нашае. Вядомае дзело, веселле скора ня робіцца. Прышлося Ахрэму вяртацца адтуль позна уночы. Іці трэба было лесам. Праз лес ішла ездавая дарога, каторую трэба было абмінаць, бо сьцежкаю было бліжэй, як тою дарогаю. Ахрэм і думае: „Пайду проста сьцежкаю,—усё-ж бліжэй будзе". Ды й пашоў.

Ноч была і так цёмная, а то яшчэ ў лесе. Ішоў ён, ішоў ды нейк заблукаўся ды разам як правалі́цца, як шубоўтне кудысь пад землю! Упаў і ня так пабіўся, як палякаўся. Што яно такое?

Падумаўшы—дагадаўся: у лесе было шмат ваўкоў і шкоды было ад іх ня мала, дык іх стралялі і лавілі. А лавілі іх так: выкапаюць яму глыбокую, дзе воўчых сьлядоў найболей, а яму прыкрыюць тонкім галлём і травою прытрусяць, каб ня відаць было: за ямаю яшчэ часам і прынаду палажаць. Як воўк прынаду счуе і пабяжыць да яе, дык у яму і праваліцца. Вота-ж у такую яму патрапіў і Ахрэм.

Як дагадаўся Ахрэм, дык трох ад сэрца й адлягло. Калі чуе—у яме штосьць як завые! Ахрэм так і пахаладзеў. Глянуў—ажна процій яго як-бы дзьве сьвечачкі гараць. Ахрэм ведаў, што у воўка попацемку вочы сьвецяцца, і што гэта ваўчок папаўся у ямі і сядзіць. „О, гэта добры таварыш,—думае Ахрэм,—а у мяне і паганаго пакалка німа, адно скрыпка!" Што яму тутака рабіць? Вылязьці з ямы попацемку нельга ды і повідну ня вельмі-то, бо яма глыбокая, а яшчэ пачні вылазіць, дык воўк цябе з заду. Не, трэба, кажа, сядзець ціха.

Залез Ахрэм у куток, а воўк у другом. І думае Ахрэм: „Гэта ён цяпер спалохаўся, дык не чапае, а як ачухаецца, то з костачкамі зьесьць мяне". І, сапраўды, крыху пачакаўшы, воўк пачаў ужо варушыцца, няйначай бліжэй падступаць. «Пагана»,—думае Ахрэм: «нічога тут ня зробіш! А ну, хіба на скрыпцы зайграю». Узяў, прылажыў скрыпку ды як разанё смычком па струнах, а скрыпка як загалосіць, а воўк як адскоча! «О, — думае Ахрэм:—гэта добра!» Ды й давай іграці да яшчэ вясёлае, да танцаў. Воўку, мабыць, спадабалося,—пачаў ён пад му-

**М. Грамыка.**

# Зьмітрок з „Высокай Буды“.

*Драма у 4-ох дзеях.*

**АСОБЫ:**

ЗЬМІТРОК — статны селянін, гадоў 35.
АКСІННЯ — жонка яго, гадоў 28.
ГАЛІНА КАЖАНЕУСКАЯ — паненка гадоў 23.
ЦЫГАНОК — селянін, чарнявы, гадоў 30.
ПАНАС — стары дзед.
САУКА — пьяніца.
СТАРЫ ПАСТУХ.
МАЛАДЫ ПАСТУХ.
Мужыкі, Бабы, Селяне.

## Дзея 1-ая.

Перакростак дарог. Расьпяцце.

З Ь Я В А 1-ая.

**Аксіння і Цыганок.**

Аксіння. Я ужо табе казала ня раз...

Цыганок. А можа на гэты раз патраплю. Любая мая, выкінь яго з сваіх думак! Ня вернецца ён, я табе кажу. Спраума з табой вяселле без папа ды якое! Спраума, Аксіння, пакуль краса твая не завяла, як зёлкі.

Аксіння. Бязстыжы ты! Што табе мой Зьмітрок! А я-ж, ці магу яго забыць? Ня вернецца, дык ня трэба тагды мне нічога ад жыцця... Ідзі, Цыганок, не грашы. Вунь нашыя бабы ідуць у хвальварак. Бывай здароў!

Цыганок. (у сьлед). Шчасьце тваё, што засела у маім сэрцы, а то-б інакш я пагаварыў з табой! (Пашоў. Чуваць труба пастуха).

З Ь Я В А 2-ая.

**Пастухі.**

Малады. Каб я не адбараніў, дык-бы прапароў беленькага бычка. А я яго ззаду пугай—лясь! А здаровы бугай, каб яго...

Стары. Так і прамеж людзьмі: то за бабу, то за дзеўку бьюцца. Як паходзіш каля жывёлы ды прыгледзішся, дык дужа падобна да людзкога,—крыху, крыху прасьцей. А грунт адзін ..

Малады. (у бок). Куды зьвярнула, Падласка, —назад!

Стары. Ведама—пастух. Але-ж і у біблії, усюдых прызначаецца: паства і пастыр. Бо,—ці ведаеш, Янучок,—як жывёлі, так і людзям патрэбны пастухі: бяз іх разбрыдуцца ва усе бокі, адны у жыто пойдуць, а ад другіх застануцца адны капыты, як на ваука набрыдуцца. Ідзі туды, Янучок, зьвярні ад дарогі, а то пачнуць скубсьці там, дзе ня трэба... Го-го-го, рабенькія мае! (выходзіць).

З Ь Я В А 3-яя.

**Зьмітрок.**

Зьмітрок. Кожнае дрэуцо вядомае мне тутака, кожная сьцежка праходжана з малепства. Тры рокі, як кінуў я родны мой край і зноў я з ім, з мілым, спаткаўся. Сустрэнь-жа, як сына мяне, прывітай; я дужа душой змардаваўся. (Садзіцца).

З Ь Я В А 4-ая.

**Зьмітрок і Малады пастух.**

Малады пастух. Здароў!

Зьмітрок. Здароў, брат! Скацінку сваю пасеш?

Малады пастух. Эгэ-ж. А вы скуль будзеце? Стойце... Ці вы ня Зьмітрок з „Буды“?

Зьмітрок. Так, братка. А ты хто?

Малады пастух. А я—Янук з Лыскава. Вы мяне не спазналі?

Зьмітрок. Э, братка! Я стольки народу перабачыў. Стольки прайшло перад маімі вачыма гэтых плямаў, што завуцца тварам, ці абліччам людзкім, што, не нарокам, запомніў і сва-

---

Аценю красу тваю,
Палюблю ці праганю».
Прыцягнуў і—мац рукою.
—«Пан, зьмілуйся нада мною!»
—«Бач, які твой галасочак,
Ен зьвініць, як той званочак.
Валасы твае, як пух,—
Словам, стараста мой—зух!
Шчочкі гладкі—маладая.
Тварык—жар, то кроў жывая.
Мабыць вельмі чырванееш.
Во халодная—бляднееш.
Губкі пухлыя маўчаць,
Грудкі поўныя дрыжаць...»
Пан сьляпы рукамі водзіць,
Страх на дзеўчыну наводзіць.
—«Бач, як стан так лёгка гнецца.
Як асіна ўся трасецца,
Аб зубок стучыць зубок...
Ты ня бойся, галубок!
Усю абмацаю рукамі,
Бо ня бачу я вачамі».
—«Ой, панок, хай будзе досыць!»
На каленях яна просіць.
—«Ты чыя, дзіця маё?»
—«Доч я старасты твайго».
—«То ня праўда!»—хтось гаворыць.
—«То ня праўда!»—рэхі ўторыць.
—«Далібог, ня доч мая!»—
Кажа стараста:—«твая!»
(Ен за дзьверы прытаіўся,
Як ня трэ' было зьявіўся).
«Пан калісь і маю бабу
Да сябе ў камору вабіў.
Ты аставіў тады ёй
Одсьлед похаці сваёй.
Гадаваў тваю дачку я,
А цяпер яе шкадую,
Як над ёй во строіш зьдзекі,
Непасоўна чалавеку.
У тваёй душы цяпер
Вые, рвецца дзікі зьвер.
Пан ня толькі сьлеп на вочы—
Бачыць, і душа яго хоча.
Вось цяпер на пана-ката
Надыходзіць час адплаты.
Я ў граху служыў табе.
Шле Бог кару праз мяне!»
Пан ад страху камянее,
А дзяўчынка проста млее.
Яе стараста сшалелы
За руку выводзіць сьмела,
І сярод слугоў, людзей
Да хацінкі йдзець сваей.

* * *

Ноч васенняя, глухая
Вельмі ціхая, даўгая.
Сьпіць зямелька, як бы ў чарах,
А нябёсы ў цёмных хмарах.
Німа месяца, ні зор.
Шэпча штось высокі бор.
Што за гукі а паўночы?
Мо' каго хто рэзаць хоча?
Чаму небо чырванее?
Што за цуды Бог тут дзее?
Хто так голасна крычыць,
Ды куды народ бяжыць?
Як удзень, уночы сьветла,—
Гэтак цёпла, гэтак ветла,
Жар такі, як сярод лета.
Што за дзіўная прымета?..
Гэта панскі дом гарыць,
І туды народ бяжыць.
Асталіся на узгорку
Толькі печ і падмуроўка.
Рэшта—ўсё да тла згарэло,
Дымам ў небо паляцело.
Згінуў сам і пан благі
У тым пажарышчы-агні.
А на заўтра кала клеці
Хтосьці старасту прыкмеціў:
Ен вісеў там на асіне.
А нешчасная дзяўчына
Ашалела. Матку бьець,
Дзіка плача і пяець.
І на попелі начуе,
Там, пад месяцам, сумуе,
У дзень бегае па полю
І кляне благую долю.
Там сярод малых кустоў
Усіх пужае пастушкоў...

1918 г. Менск. **Ясакар.**

Аксіння. Божа-ж Ты мой,—я як няпрытомная стаю!..

Зьмітрок. Ну, пабрадзём да вёскі. Сустрэуся з жонкаю роднай, з добрымі людзьмі, трэба-ж і з хатай прывітацца сваёй.

**Заслона.**

(Працяг будзе).



**Францішк Аляхновіч.**

# Чорт і Баба.

*Жарт у 1 акце.*

(Паводле народнай казкі).

(Глядз. № 32).

### ЗЬЯВА IX-ая.

**Марыська.** (адна). Ах, як добра, што суседка прыйшла і так добра мне параіла! А то, каб ні яна, то я дагэтуль нічога ня ведала-б, і марна згінуу-бы Мікітка мой, а я удавой бы засталася!.. Ну, трэба сьпяшацца... Ах, вось ізноу бяда!.. Як раз учора я прадала усе яйкі і не маю з чаго зрабіць закуску для Мікіткі. Трэба хіба пазычыць недзе у суседзяу! (выходзіць).

### ЗЬЯВА X-ая.

**Чорт** (вылазіць с-пад прыпечка).

Чорт. Эй, баба мяне хіба ашукала! Абяцалася іх пасварыць, а замест гэтаго пачала разводзіцца аб нейкіх сухіх валасох дый рады розныя даваць... Трэба і мне паглядзець у сябе пад барадой, ці і у мяне ні вырасьлі прыпадкам сухія валасы, а то хто ведае!? С такога гора вельмі лёгка могуць выпаузьці здаровыя, а вырасьці сухія... С такога гора усё магчыма!.. Гдзе-ж тут люстэрко у іх? А вось!—(Глядзіць у сябе пад барадой). А даліпан!.. вось ёсьць... здаецца, што сухі.. Трэба згаліць, хаця усе сьмяяцца будуць... Які-ж гэта, скажуць, чорт без барады!.. А ізноу нехта ідзе! ізноу хавацца трэба... Эх, жыцце!.. (хаваецца).

### ЗЬЯВА XI-ая.

**Мікіта**, пасьля **Баба**.

Мікіта. (уваходзіць). Еду ужо, Марыська! Кажы, якую хустку... (разглядаецца). Гдзе-ж яна? У хаці німа... Кудыйсь падзелася. (кліча. Марыська! (пауза). Трэ' пачакаць яе. (Сядае).

Баба. (праз вакно). Эй, гаспадар! Ці ты адзін?

Мікіта. Адзін. А што?

Баба. А так, я толькі спыталася... Паглядзела... Я зайду.

Мікіта. Заходзьце, зрабіце ласку!

Баба. (уваходзіць, села на услончыку і голасна уздыхае). Э, хэ-хэ!..

Мікіта. Чаго уздыхаеце, бабулька?

Баба. (махнуушы рукой). Лепш ня пытайся!

Мікіта. Ну, а што?

Баба. Кажу, лепш ня пытайся, бо сам пасьля шкадаваць будзеш!

Мікіта. Ну, і зацікавіла-ж ты мяне!.. Кажы, бо даужэй чакаць цярплівасьці ужо ня маю!

Баба. Шкада мне цябе, Мікіта, вось што!

Мікіта. Ну? Чаго?

Баба. Э, лепш не казаць!

Мікіта. А каб цябе чорт!.. Кажы, бо ужо злосьць бярэ!

Баба. А вось твая кабета...

Мікіта. Што яна?..

Баба. Твая Марыська, жонка, значыць...

Мікіта. Ды чорт!.. Я ведаю, што Марыська жонка!.. Ну, дык што?

Баба. Вось любіш ты яе...

Мікіта. Ну, ведама, люблю, бо лепшай бабы немашака хіба на усенькім сьвеці. Ды й яна мяне любіць...

Баба. Яна любіць!.. Хэ-хэ-хэ!..

Мікіта. Чаго сьмяецеся? Ведаеце нешта?

Баба. Каб ні ведаць! Усе ведаюць, уся вёска, ды толькі ты адзін сьляпы.

Мікіта. Што брэшаш! Ты кажы мне з сэнсам!

Баба. Каханак ёсьць ..

Мікіта. Брэшаш!

Баба. Але... Знайшла ужо! Ты толькі з хаты, дык яна ураз да яго...

Мікіта. Брэшаш!

Баба. Да душы! Каб сонца мне ня бачыць... Вось і цяпер...

Мікіта. Брэшаш!

Баба. Цсс! Ні крычы! Яшчэ скажу: яна зарэзаць цябе хоча, каб, значыцца, з каханкам бяз ніякіх перашкод... Отжа пабачыш, яна цябе сягоння падпоіць, а як ты ляжаш спаць, то яна цябе зарэжа. Вось пабачыш! Як ты вернешся з мястэчка, яна паставіць на стол яечню і пляшку гарэлкі. Гэта значыцца, каб ты упіуся ды ні скеміу, што яна ліхо замышляе. А ты толькі прыкінься быццым сьпіш, дык пабачыш, што яна будзе рабіць...

Мікіта. Брэшаш, патаскуха!

Баба. Вось і маю за свае сэрцо! Ах, і навошта я усё гэта расказала! Ды ні хацела, а ён усё: кажы, кажы... Вось і аблаеу за маю прауду!.. Такая заусёды на сьвеце падзяка! Эх-эх!.. (выходзіць).

### ЗЬЯВА XII-ая.

**Мікіта** адзін.

Мікіта. У галаве шуміць... Ох, я здурэю! Марыська каханка мае! Марыска зарэзаць хоча!.. Ня можа быць!.. ня можа быць!.. Мы-ж так добра жылі, я ніколі благога не сказау ёй слова... О, Божа мой! ня можа быць!..

### ЗЬЯВА XIII-ая.

**Мікіта** і **Марыська** (уваходзіць).

Марыська. Што? ты яшчэ не паехау да мястэчка?

Мікіта. А ты гэтаго толькі і чакаеш!

Марыська. Я не чакаю... ты ня едзь... Ты думаеш, што я дзеля гэтай хусткі?

Мікіта. Я ведаю.

Марыська. Ці-ж з хаты я цябе ганю?.. А і запрауды, ведаеш, Мікітка, ня едзь! Вось я прынесла пляшку гарэлкі, яек дастала, сьпяку яечню... Вып'еш, закусіш, ляжаш спаць... Мікітка, добра?

Мікіта. (да сябе). Зарэзаць хоча... (голасна): Чорт хай бярэ усе хусткі дый мястэчкі!.. Не паеду!

Марыська. Вось і добра!

Мікіта. Пабачымо, ці добра...

Марыська. Што?

Мікіта. Нічога...

Марыська. Чаму ты нейкі дзіуны, Мікітка? Злуешся на мяне, ці што?

Мікіта. Не, нічагусенькі...

Марыська. Дык чаго?

Мікіта. Я... я... гэта... Нешта у сярэдзіне баліць, хвор штосьці...

Марыська. (спалохаушыся). Баліць? у сярэдзіне? (да сябе): Гэта мусіць з сухіх валасоу, трэба сьпешацца!.. (да Мікіты): Вось выпі чарку—другую, тагды лепш табе будзе, а пакуль што сырам закусі (дае сыр). Яечня хутка будзе гатова (налівае чарку).

Мікіта. Давай! (Як Марыська адвярнулася, выліу чарку на падлогу і зацямкау, быццым выпіушы яе). Фу, добра, моцная!

Марыська. Дык яшчэ пі, калі смачна...

Мікіта. (налівае і вылівае на падлогу, як раней). Я пью...

Марыська. Пі, пі, Мікітачка, ды пасілкуйся!

Мікіта. А, гадзіна!

Марыська. (спалохаушыся). Ах! дзе?

Мікіта. Не... я так... У полі бачыу... Кіем забіу...

Марыська. А сёлета шмат.

Мікіта О, шмат!.. (пауза, Марыська прыгатауляе яечню). Каб цябе немач!..

Марыська. (зьдзівіушыся). Чаго ты?

Мікіта. Нічога... Так... У сярэдзіне кальнуло...

Марыська. Кальнуло? Дык ты пі, ты пі, Мікітба!

Мікіта. Я пью. (Вылівае, як раней).

(П а у з а).

Мікіта. (устае, працягіваецца, хітра-няшчыра). Спаць нешта хочацца...

Марыська. Спаць хочаш? Ну, дык засьні, ба замарыуся ты, каточак! Вось выпі яшчэ чарку і засьні... Лепш спаць будзеш...

Мікіта. (іронічна). О, буду спаць... Прауду баба казала...

Марыська. Я заусёды кажу прауду... Дык выпі і сьпі!

Мікіта. Але... Я пью... (кладзецца на лаві і пачынае моцна храпсьці, паглядаючы ад часу да часу, што робіць Марыська).

Марыська. (пачуушы, што Мікіта сьпіць, падыходзіць да яго і ціха кліча: „Мікітка", каб пераканацца, ці ён узапрауды заснуу. Мікіта храпе і не адказывае. Тагды Марыська хапае са стала нож і хутка пачынае яго гастрыць).

Мікіта. (зіркнуу і пабачыу, што Марыська робіць). А, шэльма!

Марыська. (пачуушы гэта). Бедненькі! Праз сон гаворыць. Баліць, казау, нешта у сярэдзіне... Гэта усё мусіць ад гэных паганых сухіх валасоу! Добра, што я у пару аб усім даведалася, а то магла-б быць бяда! (гострыць далей нож; пауза). Вось нож ужо, здаецца, гостры... Пара ужо!.. (Плюнуушы тройчы пад печ, падыходзіць да Мікіты і граболіць у яго у барадзе).

Мікіта. (ускаківае з лавы і пачынае яе лупіць). А! рэзаць хочаш, подлая ты душагубка! Вось я табе пакажу, хварэць тваёму бацьку ды стагнаць тваёй маці, як гаспадара рэзаць!..

Марыська. Мікітка! дык я не... я ня тое...

Мікіта. А! яшчэ запірацца будзеш! Вось якая ты, мая галубка! Пакуль ты мяне зарэжаш, я табе усе костачкі палічу, паганая!

Марыська. Людзі добрыя! ратуйце!.. (уцякае, Мікіта за ёй гоніцца).

ЗЬЯВА XIV-ая.

**Баба і Чорт.**

Чорт. (высоуваецца с-пад печы).

Баба. (усунуушы галаву праз вакно). Ну, чорт! Хутчэй, хутчэй! давай мне мех! Няужо-ж мяне ты ашукаць хочаш?

Чорт. Не, цётачка, цябе і чорт не ашукае!

Баба. Дык давай мех! гдзе грошы?

Чорт. Чакай!.. баюся я цябе!.. Я зара...

Баба. Давай хутчэй, бо часу ня маю!

Чорт. (вылез на сцэну і цягне с-пад печы цяжкі мех).

Баба. Што? цяжкі? Цягні, цягні, браток!.. А то чакай! Я зара увайду у хату і памагу табе.

Чорт. (спалохаушыся). Ня йдзі!.. не памагай!.. баюся я!..

Баба. Чаго-ж ты, міленькі, спудзіуся?

Чорт. Баюся я, каб ты і мне жыцця не атруціла!

Баба. Давай-жа мех!

Чорт. Чакай! толькі да мяне ня йдзі! (бярэ з-за печы вілы і на вілах высовывае праз вакно мех).

Баба. Ці вага добрая? Не ашукау? Бо у хаці у мяне бязмен, я пераважу.

Чорт. Вага добрая... Дый магу даць яшчэ, калі толькі споуніш маю просьбу.

Баба. Што, яшчэ кагосьці пасварыць?

Чорт. Не... Але як спаткаемся у пеклі, нічога там ты не кажы, не набрахай там на мяне... Я бедны чорт, я цяжка на свой хлеб працую... Мей літасьць нада мной! Не пажадай жыцця майго.

Баба. (прагавіта). А прынясеш мне яшчэ адзін мех?

Чорт. Добра, я ураз, калі мне абяцуеш...

Баба. Але да хаты мне...

Чорт. (страшэнна спалохаушыся). О, не!..

Баба. Нікога у мяне ня будзе!..

Чорт. Ой, не! ой, не! Ты ня губі мяне!

Баба. Прыйдзі, не пашкадуеш...

Чорт. Я вельмі молад... Я сарамліу... Ты выбачай...

Баба. Прыйдзі, каточак! Прыйдзі, міленькі, да мяне!

Чорт. А не зарэжаш там мяне?

Баба. Ды што ты! Цябе там соладка я буду палаваці... Да раніцы маім ты госьцем будзеш!..

Чорт. О, ей! Прапау я, згінуу я зусім, бо баба закахалася у мяне! Хутчэй трэба да пекла уцякаць!.. Хай лепш Люцыпар бье, хай чэрці усе сьмяюцца, чымсь з гэтай бабаю кахацца! А як прыдзецца ужо нам спаткацца на пякельным дне, смалы для яе ня буду шкадаваць дый, апрача таго, патэльню гарачую лізаць прымушу там яе!.. (хаваецца пад печ).

Баба. (усьміхаючыся да чорта бяззубым закахаушымся тварам). Каточак! Пачакай! Чакай!..

**З а с л о н а.**

КАНЕЦ.



# Бібліографія.

**Беларуская граматыка для школ.** *Напісау кандыдат фільольогіі Петрагр. Унівэрсіт. Б. Тарашкевіч. Выданне „Беларускаго Камітэту". Вільня. Друкарня М. Кухты. 1918 г. in 1/16, стр. 112 (лацінкаю).*

Даўно жаданы час, калі паявіцца у сьвет беларуская граматыка, прыйшоу нарэсьці у 1918 г.. Ураз за «Граматыкай беларускае мовы Б. Пачобкі» (лацінкаю) зьявілася і вышэй памянёная «Беларуская граматыка для школ», — абедзьве незалежна адна ад аднэй.

Граматыка Б. Тарашкевіча падзелена на пяць часьцін: I) Гукі—фонэтыка, стр. 7-20; II) Часьціны мовы, стр. 20-80; III) Падзел слова, стр. 80-84; IV). Правапіс, стр. 84-104; V). Сказ, стр. 104-112.

Аддзел I уводзіць патрэбныя фундамэнтальныя паняцці і тэрміны і тыя характэрныя асаблівасьці беларускае мо-

